


# Вескі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 6 (652)**
**Чэрвень 2020 г.**


## Купальскія сьвяткаваньні ў Нью-Ёрку - перапынак



Сёлета дзеля каронавірусу закрытыя паркі й кэмпінгі, а таксама іншыя месцы калектыўнага адпачынку. Праз гэта не адбудзецца і Купальле, што апошнім часам праводзілі беларусы Нью-Ёрку і ваколіцаў у рэзэрвацыі Паўнд-Рыдж, на поўнач ад горада. За апошнія 20 гадоў гэта фактычна першы год без Купальля.

Міжтым у рэгіёне Нью-Ёрк—Нью Джэрзі Купальлі маюць даўжэйшую гісторыю. Напачатку 1950-х гадоў Купальлі праводзіліся ў Нью-Джэрзі (а таксама і ў Кліўлэндзе) . У той час у Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзі, меліся ўмовы для масавых імпрэзаў, і там адбываліся традыцыйныя сьвяткаваньні, калі людзі зьбіраліся ля невялічкага возера, вадзілі карагоды, сьпявалі, скакалі праз вогнішча. На імпрэзы зьбіралася часам па дзьвесьце чалавек. Арганізацыйнай і мастацкай часткай сьвяткаваньняў займаліся тады Ірэна Цупрык-Жылінская і Віла Ляўчук. Было гэта, па зьвестках др. Вітаўта Кіпеля, у 1950-1954 гадох. Пазьней да сьвяткаваньняў былі прытарнаваныя спартовыя імпрэзы, якімі кіравалі Рыгор Арцюшэнка і Жорж Навумчык. Затым Купальлі сталі з 1967 да 1974 году адзначацца на рэсорце Белэр-Менск у штаце Нью-Ёрк (каля Мантысэля, акруга Саліван). Арганізацыйна да сьвяткаваньняў Купальля далучыўся Іван Муха, які пазьней таксама працягнуў традыцыю спартовых спаборніцтваў па футболе, валейболе, лёгкай атлетыцы, і гэта адбывалася нейдзе да сярэдзіны 1980-х гадоў.

Новы этап сьвяткаваньняў зьвязаны зь дзейнасьцю спэцыялісткі па фальклёры сп-ні Валянціны Якімовіч. Яна заініцыявала адраджэньне купальскіх сьвяткаваньняў у Нью-Ёрку, і першы раз пад яе кіраўніцтвам сьвята адбылося ў 2000 годзе ў Белэр-Менску, пры беларускім рэсорце. Адшукаліся потым яшчэ некалькі месцаў, але найлепшым зь іх стала рэзэрвацыя Паўнд-Рыдж у гадзіне язды на поўнач ад гораду. Сьвятканьні Купальля адбываліся, у параўнаньні да папярэдніх, на слушнейшай фальклёрнай падставе, вылучаліся сваім сцэнаром і нутраной структурай, са сьпевамі аўтэнтычных купальскіх песьняў.

Праз купальскія сьвяткаваньні прайшло шмат маладых беларусаў, што мелі нагоду адчуць гонар за сваю культуру, пабавіць час з землякамі. Некаторыя імпрэзы зьбіралі блізу 200 чалавек, як і ў ранейшыя часы. І за гэта сп-ні Валянціне Якімовіч належыцца асобная падзяка, як і за дагляд калекцыі строяў, якія яна пазычае ўсім ахвочым на час сьвяткаваньня.

Будзем спадзявацца, што сьвяткаваньне Купальля ўсё ж адбудзецца або пазьней сёлета, або ў належны купальскі час у наступным годзе.

***Віталь ЗАЙКА***

## Купальле -2020

Шаноўныя сябры! У сувязі з пандэміяй віруса CAVID-19 адміністрацыя парку, дзе было зарэзэрвавана месца для правядзеньня Купальля сёлета, часова скасавала правядзеньне там усіх масавых імпрэзаў. Такім чынам, масавага адзначэньня Купальля сёлета ня будзе.

Магчыма пазьней летам, калі забароны на правядзеньне масавых імпрэзаў будуць зьнятыя, будзе арганізаваная іншая беларуская імпрэза на прыродзе, падобная на купальскую. Сачыце за абвесткамі.

# Зацемкі падчас пандэміі



**СТАТЫСТЫКА.** Пандэмія ахоплівае сотні краінаў. У такіх умовах вялікае значэньне мае параўнальны статыстычны аналіз. Схаваць фальсыфікацыю ў лічбах ва ўмовах пандэміі, практычна, немагчыма.

З аналізу вынікае, што афіцыйная колькасьць інфікаваных ў Беларусі, і асабліва колькасьць памерлых, заніжана ў сярэднім у 10 разоў. Магчыма, рэальнасьць яшчэ страшнейшая.

**КАМБІНАВАНАЯ АТАКА.** Зьвяртае на сябе ўвагу асаблівая дзейнасьць забойцы людзей. У адзін час адбываецца: эпідэмія Ковід-19 і адмаўленьне ім яе існаваньня (нератаваньне народу), ліквідацыя радыёактаўнай трыццацікілямэтравай Чарнобыльскай зоны і ўвядзеньне ў сельгасабарот радыёактыўных земляў Чарнобыльскай зоны, запуск тэхналягічна недапушчальнай атамнай электрастанцыі ў Астраўцы. Такім чынам адбываецца сыстэмны аднамамэнтны змасаваны ўдар па Беларускай нацыі. Выканаўца — Лукашэнка.

(**ЗАЎВАГА.** Нават калі злачынцу зараз арыштаваць, суд можа не адбыцца: у забойцы існуе зафіксаваны дыягназ псыхічна хворага. Калі адвакатам ўдасца даказаць, што ў яго мазаічная форма не псыхапатыі, а шызафрэніі (і такое бывала), то ў дурнях застанецца ўсё грамадзтва, якое яшчэ будзе змушана лячыць злачынцу за дзяржаўны кошт.)

**РОЛЯ РПЦ.** Наступны характарыстычны момант. Пад націскам сатрапа асноўнай пляцоўкай і рухавіком каранавіруснай заразы стаў праваслаўны аддзел КГБ — Расейская праваслаўная царква. Дзейнасьць яе па заражэньні людзей стымулявана Лукашэнкам і ў прынцыпе зьяўляецца злачынствам супраць чалавецтва. Аднак у зоне існуючай улады адсутнічае заканадаўства па ацэнцы гэтага крыміналу. У выніку ў пачатку траўня чакаецца ўспышка захворваньняў, справакаваных РПЦ на Радаўніцу і Вялікдзень. Яна ўжо пачалася.

(**ЗАЎВАГА.** Трэба ўлічыць, што ў закрытым памяшканьні, запоўненым людзьмі, вірус доўга захоўваецца ў паветры. Я ўжо не кажу пра антыгігіенічныя перажыткі, што захаваліся ў праваслаўнай царкоўнай службе. Абгрунтаваньне антылюдзкіх заразных дзеяньняў робіцца тут сьвятарамі РПЦ на ўзроўні разумовага разьвіцьця Лукашэнкі і на ўзроўні самага цёмнага сярэднявечча. Прытым заражэньне і сьмерць праваслаўных япіскапаў і сьвятароў у Беларусі і Украіне ніякім чынам ні прымушае царкоўны клір зьмяніць паводзіны.)

**ФЭНАМЭНЫ.** Пандэмія выявіла шмат якія фэнамэны паводзінаў людзей, якія ў звычайным жыцьці добра вядомыя, але не выклікаюць акцэнтаванай увагі. У Амэрыцы ёсьць асобы, якія дэманструюць за свабоду супраць карантыну (і гэта ў ЗША — цэнтры сусьветнай пандэміі). Адна кабета нават распранулася супраць карантыну дагала і трэсла сваімі формамі, адмаўляючы эпідэмію. Паліцыя забрала ў псыхушку.

Фэнамэн дурняў самы распаўсюджаны і зразумелы ўсім. Але (асабліва ў Беларусі) цяжка зразумець людзей (адукаваных і ня цёмных), якія бачаць перапоўненыя шпіталі, сьмяротнасьць мэдпэрсаналу і лекараў, што валяцца з ног, працуючы кругласутачна, бачаць мноства сьвежых магіл на могілках, бачаць захворваньні і сьмерць суседзяў, і пры гэтым кажуць, што ніякай эпідэміі няма, што тут, маўляў, псыхоз, што карантынаў ня трэба — давайце жыць звыклым жыцьцём. Размова тут ня йдзе пра кіроўнага забойцу і вар'ята, але пра іншых здаровых людзей, якія кажуць і паўтараюць вар'яцтва.

Урэшце іх самых хапае каранавірус, і яны паміраюць, як тыя сьвятары РПЦ, перакананыя, што эпідэміі няма.

Магчыма, тут паталягізацыя ідэалёгіі. Я тлумачу гэта, аднак, асаблівым складам розуму — тупіковай сьвядомасьцю (пра што неаднаразова пісаў). Гэта зьява, якую трэба ўлічваць.

**СЫНДРОМ АБСАЛЮТНАЙ АЎТАРЫТАРНАЙ ЎЛАДЫ.** Самым небясьпечным фэнамэнам, які праілюстравала пандэмія для беларусаў, — гэта сындром абсалютнай аўтарытарнай улады. Цяпер, відаць, шмат хто зь беларусаў убачыў і зразумеў тое, чаго не разумеў з напісанага. Абсалютная аўтарытарная ўлада заўсёды спараджае паталягічныя формы кіраваньня і здольная ператварыць любое грамадзтва ў бязвольны натоўп разьяднаных людзей з неадэкватным успрыняцьцем рэчаіснасьці.

Другі фэнамэн, які яшчэ патрабуе тлумачэньня — трымальнікамі абсалютнай аўтарытарнай улады, як правіла, робяцца паўвар'яты, людзі з адхіленьнямі ў псыхіцы і сьвядомасьці, з паталягічным імкненьнем кіраваць людзьмі, вырашаць лёс грамадзтва і лёсы людзей (Ленін, Гітлер, Сталін, Мусаліні, Пол-Пот, Кадафі, Лукашэнка і т. п., ня кажам ўжо пра Азію і гісторыю). Прытым паўвар'яты якраз стваралі сабе самы вялікі татальны культ у грамадзтве разбурэньня нацыі і асобы. Мяркую, таксама, што перш чым адбудуцца перамены, шмат што нашым людзям прыдзецца пераасэнсаваць, каб убачыць сьвет у рэальнасьці.

**САЦЫЯЛЬНАЯ ПАРАНОЙЯ.** Самы незвычайны фэнамэн застаецца нібыта за рамкай пандэміі, але прысутнасьць яго ў сьвядомасьці "зашкальвае".

Як магло стацца, што разумны, разьвіты народ з тысячагадовай эўрапейскай гісторыяй і культурай узначаліў адсталы, малакультурны хам, які адкрыта кажа пра нянавісьць да гэтага народу, зьневажае яго, абзывае, да ўсіх гаворыць на "ты", абплёўвае ягоную культуру, мову, зьнішчае лепшых людзей, узбуджае нянавісьць паміж беларусамі і 26 гадоў незаконна ўзначальвае краіну ды яшчэ ўхваляецца гэтым абпляваным ім народам? Прытым, гэта ня Азія, а цэнтар Эўропы, эўрапейскі народ, цывілізаванае грамадзтва.

Вось дзе будзе пляцоўка для сацыяльных дасьледваньняў будучыні. Мне здаецца, што я гатовы адказаць на пытаньне, але ня варта сьпяшацца, бо кожны павінен падумаць і адказаць сабе сам.

*30 красавіка 2020 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

Беларусь - Амэрыка: лёсы землякоў

# Міхась Кавыль - паэт, выдавец, грамадзкі дзеяч



Паэт Міхась Кавыль (сапраўднае імя Язэп Лешчанка, іншыя псэўдонімы: Я. Ляшчына, Язэп Маёвы) нарадзіўся 1 сьнежня 1915 г. на Случчыне. Ягоны бацька неўзабаве загінуў у войску падчас Першай Сусьветнай вайны, і ў маці засталося пяцёра дзяцей. Язэп скончыў Грэскую сямігадовую школу і ў 1930 годзе паступіў у Белпэдтэхнікум, які стаў сапраўднай кузьняй беларускіх патрыётаў.

У 1929 годзе ў газэце "Беларуская вёска" ён апублікаваў свой першы верш "Гудкі", што быў, паводле словаў самога аўтара, "хваласьпеў ранью новых дзён". У Белпэдтэхнікуме быў літаратурны гурток, на паседжаньнях якога часта выступалі студэнты Максім Лужанін, Сьцяпан Ліхадзіеўскі, Лукаш Калюга, Уладзімер Сядура, Уладзімер Гуцька (Дудзіцкі), Сяргей Астрэйка ды інш. Чытаў свае вершы і Язэп Лешчанка, які публікаваўся ў часапісе "Маладняк", газэце "Піянэр Беларусі", у дадатку да бабруйскай акруговай газэты "Вясна" (рэд Міхась Лынькоў), і дзе спрабавалі свае сілы многія маладыя аўтары. Язэп Лешчанка падпісваў свае раньнія творы псеўдонімам Язэп Маёвы і неўзабаве стаў сябрам літаратурнага згуртаваньня "Маладняк".

Праз беларускі патрыятызм Язэп, як і большасьць іншых навучэнцаў Белпэдтэхнікуму, прыцягнуў увагу "чэкістаў". У 1932 годзе яго выклікалі ў ГПУ і прапанавалі паведамляць пра што гутараць і пішуць ягоныя калегі-паэты. Пазьней Міхась Кавыль у паэме "Непакорныя" распавёў вуснамі свайго героя Алеся Лучыны пра тыя часы. Язэп Маёвы ня здрадзіў сваім сябрам і, нягледзячы на падпіску "аб неразглашэньні", папярэдзіў сяброў Сяргея Русаковіча, Сядуру, Астрэйку, Гуцьку пра цікаўнасьць сьледчых. Неўзабаве Язэп Лешчанка стаў "ворагам народу". Ён быў арыштаваны 23 лютага 1933 году па фабрыкаванай справе "Саюзу вызваленьня Беларусі" і абвінавачаны ў "контрэвалюцыйнай агітацыі".

Пасьля арышту апынуўся ў сутарэньнях менскай турмы "амэрыканкі", праз якую прайшлі шматлікія прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі й сялянства. Малады паэт правёй там паўгады, пакуль ішло гэтак званае сьледства. Разам за кратамі апынуліся Лукаш Калюга, Максім Лужанін, Юлі Таўбін, Сяргей Астрэйка, Уладзімер Дудзіцкі, Сьцяпан Ліхадзіеўскі, Сяргей Русаковіч, Уладзімер Сядура, Сяргей Гайка, Францішак Гінтаўт і шмат іншых здольных студэнтаў Белпэдтэхнікуму. Пасьля іх разам везьлі месяц у жудасных умовах да Навасібірску. Пасьля ён трапіў у лягер на Далёкім Усходзе.

Зь ім разам на аб'ект Сяданбуд трапіў Віталь Калечыц – муж вядомай беларускай паэткі Канстанцыі Буйло. За "ўдарную працу" абодвум пашчасьціла вярнуцца на бацькаўшчыну, але выпрабаваньні ня скончыліся. Прыехаўшы зімою 1936 году ў родную вёску ды сустрэўшыся з блізкімі, Язэп неўзабаве пакінуў Беларусь, бо ня меў дазволу жыць у "прыгранічнай рэспубліцы". Ён знайшоў прытулак у Варонежы і жыў па першым часе ў родных былога сябра па Гулагу. Рэпрэсіі набіралі размах, і "ворагаў народу" ўжо не высылалі, а расстрэльвалі. Я. Лешчанку ў Беларусі пагражаў бы паўторны арышт, як было з іншымі вядомымі беларускімі пісьменьнікамі. У Варонежы былы вязень Гулагу ўладкаваўся рабочым на завод і адначасова на вячэрняе аддзяленьне пэдінстытуту. Яму ўдалося нават друкавацца ў мясцовым літаратурным альманаху.

З пачаткам савецка-нямецкай вайны Язэп Лешанка быў мабілізаваны, год правёў у вучэбнай частцы на Далёкім Усходзе, а ўвесну 1942 году трапіў на фронт. Браў удзел у баях за Харкаў, дзе трапіў у акружэньне і ў палон. У 1943 годзе, дзякуючы прадстаўнікам беларускіх арганізацыяў, якія з дазволу немцаў вызвалялі сваіх землякоў з палону, ён вярнуўся ў Менск. Гэты пэрыяд і жыцьцё ў ваенным Менску апісаныя ў аўтабіяграфічным рамане "Із агню ды ў полымя".

Язэп Лешчанка скончыў прапагандысцкія курсы, дзе рыхтавалі будучых кіраўнікоў СБМ, працаваў у аддзеле прапаганды ў Менску. Друкаваўся ў беларускіх выданьнях, што выходзілі пад нямецкай акупацыяй. На ягоныя словы быў напісаны шэраг песень.

У 1944 годзе Міхась Кавыль выехаў на Захад. Па вайне апынуўся ў лягерох перамешчаных асобаў (ДП) у Нямеччыне, працаваў у вугальных капальнях Бэльгіі. Пра гэты пэрыяд ён напісаў цыкль вершаў, якія друкаваліся ў часапісе "Шыпшына". У 1948 годзе пераехаў у беларускі лягер Бакнанг, актыўна ўключыўся ў беларускія справы, рэдагаваў газэту "Беларускае слова", пазьней – "Беларускую трыбуну". У 1947 годзе ў Рэгенсбургу выйшаў ягоны першы зборнік вершаў "Ростань".

У 1950 годзе Міхась Кавыль перабраўся ў ЗША ў горад Саўт-Рывер, Нью-Джэрзі. Працаваў на розных некваліфікаваных працах, каб падтрымліваць сям'ю. У 1950-х браў актыўны ўдзел у працы Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі (БККА). Быў віцэ-старшынём на Першым Кангрэсе Беларусаў Амэрыкі (11 лютага 1951). Міхась Кавыль быў рэдактарам часапіса "Беларуская думка", аднак дзеля праблемаў са здароўем рэдактарскія функцыі перайшлі да друкара і выдаўца часапіса Жоржа Навумчыка. Сумесна з Янкам Золакам у 1958 годзе ён рэдагаваў літаратурна-мастацкі часапіс "Прыйсьце".

Міхась Кавыль займаўся перакладчыцкай дзейнасцю, пераклаў з украінскай творы Яра Славуціча, М. Рыльскага, П. Тычыны; з ангельскай – Н. Гімбела, з польскай – В. Гамуліцкага, Л. Падгорскага-Аколава, з расейскай – Б. Пастарнака. Сумесна з Янам Пятроўскім пераклаў з лаціны "Роздумы" Марка Аўрэлія. Гісторык эміграцыі др. Вітаўт Капель падкрэсьлівае, што Міхась Кавыль быў зычлівым і ахвярным чалавекам, гатовым дапамагчы, узяць удзел у кожнай імпрэзе, падтрымаць кожную падзею, датычную беларускай справы.

Пры гэтым менавіта ў Вольным сьвеце на выгнаньні Язэп Лешчанка, былы беларускі савецкі паэт Язэп Маёвы, стаў Міхасём Кавылем, сапраўдным мастаком роднага слова, праз якое ён аддана служыў і назаўсёды застанецца служыць беларускай справе. "Хоць я шмат перацярпеў, – пісаў пазьней паэт, – але стаў Міхасём Кавылем. А мог бы застацца Язэпам Маёвым, які праслаўляў бы камуністычнае рабства. Мая выйгрышная карта адчыніла мне дзьверы Амэрыкі, дзе мая Муза, як той рыцар Пагоні, узьняла меч слова..."

Большасьць твораў Міхася Кавыля напісаныя ў амэрыканскі пэрыяд жыцьця, але пабудаваныя на беларускім матэрыяле, часьцей за ўсе аўтабіяграфічным, і прысьвечаныя далёкай, бясконца дарагой Бацькаўшчыне, якую яму не судзіў лёс пабачыць ізноў. Памёр Міхась Кавыль на 102 годзе жыцьця, пахаваны на могілках у Саўт-Рывэры.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Кофю будзеце?




З чайком разабраліся, бярэмся за каву. У дзяцінстве пра існаваньне кавы я нават не здагадваўся. Кубак салодкага чаю з булкаю з маслам вырашаў усе энэргетычныя патрэбы таго часу. Дзяды кавы таксама не пілі, хіба гэтая мода прыйшла ўжо ў 90-х, у форме таннага, хуткага, распушчальнага парашку. Аднак з модаю на каву не прыйшла мода на рытуал прыгатаваньня. Традыцыю таго, што не было, прынамсі сярод простага люду, прышчапіць вельмі складана. Зрэшты, куплёны чай быў таксама нейкім выключэньнем. Бабуля, чаргуючы, празь дзень заварвала на зьмену сьвежыя або сушаныя мяту і рамонак, якія расьлі пад хатай. Пілі гэты напой і гарачым і ахалоджаным. Смак і водар таго чаю не перадаць.

Ужо калі ня стала ні дзеда, ні бабы я прывёз у іхную хату, на лета, імбрык для прыгатаваньня кавы пад ціскам. Такія ўжываюцца ў Чэхіі, Польшчы, Вугоршчыне, многіх краінах Эўропы, якія заўсёды хацелі быць на захадзе, а не на ўсходзе. Крамная молатая кава засыпаецца ў пасудзіну, закручваецца, ставіцца на газ і пад узьдзеяньнем тэмпературы атрымліваецца прось-ценькае экспрэса. Дарэчы, напэўна ці не найлепшы варыянт, калі няма магчымасьці вазіць з сабою дарагі і грузны экспрэс-апарат.

Трохі далей, на бальканскім паўвостраве – там ужо цэлая кававая культура. У Харватыі, Сэрбіі, Босьніі ў пэўны час дня, таксама ў першай палове дня, кавярні забітыя людзьмі. Людзі пьюць каву, размаўляюць, чытаюць газэты. Такое ўражаньне, што ніхто ў гэты час не працуе, што усе раптам пайшлі ў водпуск. У сталічных кавярнях каву пьюць, як і паўсюль, з экспрэсу. А ўжо ў якіх-небудзь прыдарожных кавярнях або глыбей на правінцыі, недзе ў Альбаніі, там ужо пануе турэцкая “кафана”, якая варыцца ў мядзянай або латуневай турцы (джэзве). Мая бабуля з-пад Віцебску так дарэчы прыблізна і кажа – “кофа, кофія, кофю” (абавязкова жаночага роду!)

У Амэрыцы азнаёміўся з каваю, якую ўсе бачым на амэрыканскіх фільмах. Вялікі шкляны імбрык, на версе папяровы фільтар. Заліваеш кіпень, чакаеш калі накапае чорны напой, і пасьля наліваеш сабе першы кубак, пасьля другі, трэці і ў выніку выпіваеш вядзерца кавы. Калі кава з джэзвы гэта такі напарстачак-бомба, то амэрыканская кава слабейшая, але яе павінна быць шмат – амэрыканцы любяць усё вялікае, у тым ліку вялікія порцыі. У мясцовых кавярнях зьдзіўляе працэдура – refill coffee. Плоціш за каву адзін раз, а пасьля, калі табе яшчэ ўлазіць, падыходзіш і з тэрмасу падліваеш сабе другі і чарговы кубак. Кубкі вялікія, тэрмасы здаравезныя. Зразумела, што пры такой колькасьці спажыванай кавы, раней ці пазьней трэба было прыйсьці да амэрыканскага вынаходніцтва – кава бяз кавы (дэкафеінат).

Для Беларусі мода на каву стала сваесаблівым ганеньнем за заходнім сьветам. Збольшага, яна пашырылася ў вялікіх гарадах. У мястэчках бывае сустрэнеш нядрэнную каву, але прыжываецца яна тамака надта нетаропка. Гасьцям на сваім лецішчы я таксама прапаноўваю каву. Неяк адзін з маіх сяброў, глыбоцкі мастак, адрэагаваў на маю прапанову наступным чынам – нашто мне гэты пыл бразілійскіх дарог, калі я ведаю водар нашых зёлак. Сказаў і пайшоў на поле рваць сабе зельле на гарбату.

Відаць мы ўсё ж застанемся ўсходам. Усходам, ну хаця б зь някепскай кавай.

***Віталь ВОРАНАЎ***

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

***Шаноўныя сябры!*** *Калі ласка, своечасова абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні”. Стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча.*

## Абвестка

Штомесячныя сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

Сачыце за абвесткамі на старонцы "Пагоні" ў Фэйсбуку: ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/?ref=group_header"***

*Паважаныя **Ю. Акуліч, К. Буяр, А. Лук'янаў і Я. Новікава,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich.***